Выходзіць з 20 снежня 1945 года



# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 69 (5400)
Аўторак, 11 чэрвеня 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ


Абітурыент-2002

## І рэжысёры, і псіхолагі...

***Беларуская дзяржаўная акадэмія фізічнай культуры сёлета прапануе абітурыентам шэраг новых спецыяльнасцей. Да гэтага часу некаторыя з іх існавалі ў якасці спецыялізацый.***

Найбольш "багаты" на новыя спецыяльнасці факультэт аздараўленчай фізічнай культуры і турызму. Даволі цікавай і прывабнай для абітурыентаў, магчыма, стане спецыяльнасць "Спартыўная рэжысура", пасля заканчэння якой выпускнікам будзе прысвойвацца кваліфікацыя "выкладчык фізкультуры, рэжысёр спартыўна-масавых мерапрыемстваў". Першы набор складзе пяць чалавек (на бюджэтнае аддзяленне).

Поруч са спецыяльнасцю "Фізічная рэабілітацыя" (якая існуе больш за 10 гадоў) адкрыецца "Эргатэрапія". Яе асаблівасць - медыцынскі ўхіл. Будучым эргатэрапеўтам давядзецца працаваць з людзьмі, якія маюць пэўныя адхіленні ў фізічным развіцці. Таму тыя восем чалавек, якіх плануецца набраць на бюджэтныя месцы, павінны абавязкова мець базавую медыцынскую адукацыю.

Спецыяльнасць "Менеджмент у спорце і турызме" (таксама факультэт АФК і турызму) падзяляецца на тры напрамкі: менеджмент у спорце, менеджмент у турызме, спартыўны і рэкрэацыйны турызм.

Спартыўна-педагагічны факультэт масавых відаў спорту сёлета прапануе спецыяльнасць "Спартыўная псіхалогія" з прысваеннем выпускнікам кваліфікацыі "выкладчык фізкультуры, псіхолаг".

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Перамагаюць эрудыты

***Падведзены вынікі першай раённай інтэлектуальнай алімпіяды "Эрудыт-2002", якая праводзілася ў сярэдняй школе №10 Віцебска па рашэнню адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска і райкама БПСМ. Асаблівасцю алімпіяды стала тое, што ўпершыню на адзіным маладзёжным спаборніцтве такога рангу сустрэліся прадстаўнікі ВНУ, ССНУ, каледжаў, ПТВ, гімназій і школ раёна.***

Прычым усе ўдзельнікі былі пастаўлены ў зусім аднолькавыя ўмовы і на працягу дзвюх гадзін ім трэба было адказаць на 100 тэставых пытанняў, якія былі падабраны па дзесяці раздзелах ведаў: матэматыцы (алгебры, геаметрыі і інфарматыцы), біялогіі, рускай і беларускай мовах і літаратуры, культуры, агульных ведах (здароваму ладу жыцця, эканоміцы, чалавеку і грамадству), агульнай эрудыцыі, фізіцы і астраноміі, хіміі. Абмежаванні ўвялі толькі для ВНУ - да спаборніцтваў дапусцілі толькі першакурснікаў.

У аргакамітэт былі прадстаўлены заяўкі ад дзвюх ВНУ, васьмі ССНУ і ПТВ, пятнаццаці гімназій і школ. Зарэгістравалася 87 эрудытаў. Іх нават прыйшлося падзяліць на чатыры групы. Лік ішоў на кожнае ачко. З вялікім адрывам пераможцай алімпіяды стала вучаніца 11 "Б" класа гімназіі №1 Кацярына Шавялёва, якая была ўзнагароджана дыпломам I ступені і каштоўным падарункам. Другое месца і адпаведна дыплом II ступені і падарунак дасталіся вучаніцы 11 "А" класа гімназіі №3 Кацярыне Крайняй. Рэпутацыю ВНУ падтрымаў студэнт 1 курса акадэміі ветэрынарнай медыцыны Дзмітрый Шчамялёў. Ён быў узнагароджаны дыпломам III ступені і падарункам.

"Эрудыт-2002" удаўся на славу, у чым вялікая заслуга старшыні аргкамітэта, намесніка кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска П.І.Лосіча і "гаспадара" алімпіяды дырэктара сярэдняй школы №10 П.М.Лычкоўскага. Цікавасць сярэдняй школы №10 да падобных конкурсаў зразумелая. У студзені вучаніца сярэдняй школы №10 Яўгенія Дваранінава стала абсалютнай пераможцай міжнароднай алімпіяды па рускай мове ў Маскве.

Магчыма, што наступную алімпіяду "Эрудыт-2003" аргкамітэт зробіць адкрытай - з прыцягненнем прадстаўнікоў іншых аўтарытэтных навучальных устаноў.

**Андрэй ГЕРАШЧАНКА.**



У школах рэспублікі пачаліся выпускныя экзамены. 79 выпускнікоў віцебскай сярэдняй школы №28 таксама трымаюць гэтымі днямі экзамен на атэстат сталасці.

НА ЗДЫМКУ: рыхтуецца да адказу вучань 11 "Б" класа Віталь Гацоўскі.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

> ***Каждый день, в который вы не пополнили своего образования хотя бы маленьким, но новым для вас куском знания, считайте бесплодно и невозвратно для себя потерянным.***
>
> **К.Станиславский.**

Адказваем чытачу

## Чаму ў тэстах па матэматыцы было 27 заданняў?

*Прашу не пакінуць мой ліст па-за ўвагай і адказаць на пытанне.*

*7 красавіка 2002г. было праведзена Цэнтралізаванае тэсціраванне па матэматыцы. На пропуску было ўказана, што абітурыенты павінны выканаць 27 заданняў на працягу 135 хвілін (у 1999, 2000, 2001гг. за гэты час трэба было выканаць толькі 22 заданні!). З чым гэта звязана?*

*Ужо 1 мая мы выкарысталі магчымасць даведацца пра папярэднія вынікі тэстаў праз Інтэрнет. І якім было здзіўленне, калі даведаліся, што падвядзенне вынікаў вялося адносна 22-х, а не 27 заданняў! З якой мэтай былі ўнесены дадатковыя 5 заданняў павышанай складанасці, на выкананне якіх абітурыенты затрацілі каля 25 хвілін?*

*Акрамя таго, як мы даведаліся, у некаторых абітурыентаў на бланках былі толькі 22 заданні!*

*Напрыклад, з 22 вучняў 11 класа сярэдняй школы №12 Слуцка, што прымалі ўдзел у тэсціраванні, у двух на бланках было ўсяго 22 заданні (Ігар Паўлейчык і Сяргей Календа). Як можна ўсё гэта растлумачыць? Лічу неабходным асвяціць у прэсе гэту праблему.*

**З павагай Л.А.Вылінская.**

Па каментарый да вашага ліста, Людміла Анатольеўна, я звярнулася да **в.а. дырэктара Інстытута кантролю ведаў Валянціны Іванаўны ДЫНІЧ.**

- Адразу хацелася б адзначыць, што цэнтралізаванае тэсціраванне - гэта дадатковая адукацыйная паслуга. Выправіць яго вынікі можна і пры паступленні ў ВНУ звычайным шляхам.

Самі тэсты не дапускаюць прамой залежнасці паміж часам, адведзеным на выкананне заданняў, і іх колькасцю. Яны распрацоўваюцца такім чынам, што максімальную іх колькасць зрабіць практычна немагчыма. Выдатная адзнака, выстаўленая за тэсты, зусім не азначае, што абітурыент правільна адказаў на ўсе пытанні.

Расійскія тэсты па матэматыцы для беларускіх школьнікаў аказаліся дастаткова простымі: для такой стракатай па ўзроўню ведаў краіны, як Расія, іх распрацавалі на ўзроўні сярэдняй складанасці. У мінулым годзе значная колькасць нашых абітурыентаў (10 працэнтаў) паказала высокія вынікі па іх і, зразумела, накіравалася з сертыфікатамі аб ацэнках у ВНУ . На некаторыя спецыяльнасці прэтэндавала нават больш выдатнікаў, чым было саміх месцаў.

Згодна з тэставымі тэхналогіямі лепшых паказчыкаў павінны дасягнуць толькі 4-6 працэнтаў абітурыентаў, а не больш. Каб выйсці на такія лічбы і выявіць самых моцных у ведах, у гэтым годзе было вырашана дадаць да 22 тэставых заданняў яшчэ 5 беларускіх. Але яны не былі больш складанымі, чым расійскія. Галоўнае, каб усіх паставіць у аднолькавыя ўмовы напісання работы (135 хвілін). А высокія вынікі ў сувязі з ускладненнем тэстаў дадатковымі заданнямі сапраўды можна лічыць высокімі, проста іх будзе менш. І атрымаць іх можна не за 100% выкананых заданняў, а за 79 працэнтаў.

Калі б, скажам, павялічыць час для напісання тэстаў да 180 хвілін, дык мы прайшлі б да тых жа самых дзесяці працэнтаў, некаторыя абітурыенты завяршылі б тэсты раней, пачалося б абмеркаванне, падказкі, спісванне.

Праз Інтэрнет вы маглі даведацца пра вынікі толькі 22 расійскіх заданняў.

Усе бланкі тэстаў былі аднолькавымі. Магчыма з-за няўважлівасці хтосьці мог і не ўбачыць на адваротным баку бланка 5 заданняў, аб якіх мы з вамі гаварылі, і быў ацэнены толькі за зроблены аб'ём работы. На наступны год плануецца, што ўсе тэсты па матэматыцы будуць айчыннымі.

**Падрыхтавала Надзея СТРАБКОВА.**

Прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі паведамляе

## Што, дзе, калі?

**З 3 па 30 чэрвеня** ў Рэспубліканскай галерэі "Прырода і творчасць" Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва (вул. Макаёнка, 8) будуць экспанавацца:

* фотавыстава "Родныя прасторы";

* выстава дзіцячага малюнка "Мой свет";

* справаздачная выстава студыі "Флора" і саламянай майстэрні "Блікі".

**10-17 чэрвеня** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва (вул. Макаёнка, 8) будзе працаваць рэспубліканская школа юных фермераў.

**12 чэрвеня** сацыяльныя педагогі навучальных устаноў рэспублікі запрашаюцца ў філіял Нацыянальнага музея "Дом-музей Ваньковічаў" на лекцыю-канцэрт да 120-годдзя Я.Купалы і Я.Коласа. Пачатак у 14.00.

**12-15 чэрвеня** ў Мінскай вобласці праводзіцца рэспубліканскі турысцкі злёт школьнікаў.

**16-19 чэрвеня** ў Нясвіжы адбудуцца рэспубліканскія спаборніцтвы па суднамадэльнаму спорту (II этап). У іх прымуць удзел 75 навучэнцаў не старэй за 18 год. Адкрыццё спаборніцтваў 17 чэрвеня ў 10.00.

**18-20 чэрвеня** ў Рэспубліканскім інстытуце інавацыйных тэхналогій БНТУ адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Выкарыстанне інфармацыйных рэсурсаў і сеткавых тэхналогій навучання".

**18-26 чэрвеня** на базе паляўнічай гаспадаркі "Макоўза" Лагойскага раёна Мінскай вобласці працуе рэспубліканскі лагер юных біёлагаў "Экашкола-2002".

**19-24 чэрвеня** каманда Беларусі прыме ўдзел у чэмпіянаце Еўропы па спартыўным арыентаванні сярод юнакоў, які адбудзецца ў Польшчы.

**21-29 чэрвеня** ў Баранавіцкім раёне будзе працаваць рэспубліканскі патрыятычны лагер навучэнцаў.

**25-30 чэрвеня** Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" (вул. Фабрыцыуса, 5) праводзіць маладзёжны студэнцкі злёт "Дубрава-2002". У праграме - ролевыя гульні на развіццё арганізатарскіх здольнасцей.

**27 чэрвеня** ў Беларускім рэспубліканскім вучэбным комплексе гімназія-каледж мастацтваў імя І.Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 14) пройдзе сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, на якім пойдзе гаворка аб эстэтычнай адукацыі навучэнскай моладзі. Пачатак у 11.00.

**27 чэрвеня** ў Цэнтры мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" адбудзецца выпускны вечар вышэйшага вучылішча электронікі. Пачатак у 17.00.

**З 27 чэрвеня па 2 ліпеня** на базе Салігорскага гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнскай моладзі праводзяцца рэспубліканскія спаборніцтвы па авіямадэльнаму спорту. У іх прымуць удзел 150 навучэнцаў не старэй за 18 год. Адкрыццё спаборніцтваў 27 чэрвеня ў 17.00.

З 27 чэрвеня па 5 ліпеня ў спартыўна-аздараўленчым комплексе "Раўбічы" будзе працаваць рэспубліканскі лагер юных эколагаў і лесаводаў "Экашкола-2002".

**З 29 чэрвеня па 6 ліпеня** ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі пройдзе 5-я міжнародная летняя школа-семінар студэнтаў і аспірантаў "Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі".

**У чэрвені** Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі праводзіць наступныя курсы павышэння кваліфікацыі.

1. Сацыяльных педагогаў: "Арганізацыя і змест дзейнасці сацыяльнага педагога".
2. Выкладчыкаў працоўнага навучання (тэхнічнай працы): "Сучасныя тэхналогіі арганізацыі працоўнага навучання ў школе і ВВК".
3. Інжынераў па ахове працы і тэхніцы бяспекі гарадскіх і раённых аддзелаў адукацыі: "Ахова працы і бяспека жыццядзейнасці ў прафесійнай падрыхтоўцы спецыялістаў адукацыі".
4. Выкладчыкаў, метадыстаў, выхавацеляў: "Падрыхтоўка да атэстацыі на вышэйшую катэгорыю.



## Дзеці дораць свята

***Прыемна адзначыць, што нядаўна больш тысячы лепшых студэнтаў ВНУ, навучэнцаў ССНУ, ПТВ, школьнікаў Партызанскага раёна Мінска зрабілі падарунак аддзелу адукацыі раённай Адміністрацыі з нагоды 25-годдзя з дня яго заснавання. Арганізавалі і правялі святочны канцэрт у Палацы культуры трактарнага завода.***

Сярод гасцей былі прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, Мінскага гарадскога камітэта па адукацыі і справах моладзі, намеснікі кіраўнікоў Адміністрацыі і начальнікі ўпраўленняў адукацыі іншых раёнаў сталіцы, кіраўнікі ўстаноў адукацыі, выкладчыкі, настаўнікі.

Ужо на прыступках Палаца культуры іх сустракаў аркестр народных інструментаў сярэдняй школы № 133, які гучна запрашаў, у тым ліку і жыхароў раёна, зацікавіцца неардынарным мерапрыемствам. У фае разгарнулася выстава дэкаратыўна-прыкладной творчасці, на якой былі прадстаўлены лепшыя работы дашкольнікаў, вучняў школ і гімназій раёна.

На працягу трох гадзін увагу прысутных прыцягвалі да сябе сцэнічныя дзеянні. Па-юнацку пафасна і нават рытарычна прагучала пытанне: што зрабілі вы (мы) для сваёй школы, інстытута, раёна? Вядома, у кожнага ёсць такі шанс. Напрыклад, праславіць сябе, а значыць, і сваіх бацькоў, выхавацеляў, настаўнікаў. Але гэтае будзе магчымым, толькі калі дарослыя навучаць, як дабіцца поспеху.

Для вас, работнікі сістэмы адукацыі, спявалі на гэтым свяце харавы калектыў дзіцячага садка № 186, "Салоўушкі" школы № 133, выступаў ансамбль скрыпачоў гімназіі № 5, танцавалі "Харошачкі" школы № 33 і калектыў ПТВ-133, да мікрафона выходзілі салісты сярэдняй школы № 22, Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, ПТВ-55, быццам па сапраўднаму подыуму, рухаліся мадэлі тэатра мод Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

Акрамя творчых поспехаў, падарункам на дзень нараджэння аддзела адукацыі стала пацвярджэнне ведаў навучэнцаў - першыя месцы ў алімпіядах, конкурсах, фестывалях, выставах, спаборніцтвах усіх узроўняў.

Кіраўнік Адміністрацыі Партызанскага раёна Пётр Міхайлавіч Сямашка ўручыў лепшым работнікам аддзела адукацыі падзячныя лісты і грашовыя прэміі. А юнакі і дзяўчаты атрымалі вялікі торт і бясплатнае марожанае і паспяшаліся на дыскатэку.

**Надзея СТРАБКОВА.**

Весткі

## Вам слова, юныя эколагі!

***У Брэсцкім геаграфічным таварыстве прайшла гарадская алімпіяда па экалогіі (для старшакласнікаў).***

У алімпіядзе ўдзельнічалі 42 аўтары адметных творчых работ на тэму "Я - частка навакольнага асяроддзя", папярэдне дасланых на конкурс. Праграму склалі тэставыя і творчыя заданні. А закончылася ўсё ў форме інтэлектуальнай каманднай гульні.

Пераможцамі алімпіяды сталі вучні сярэдняй школы № 17 Брэста.

## Прыгожае вачыма дзяцей

***З поспехам прайшла ў Брэсцкім абласным цэнтры маладзёжнай творчасці справаздачная выстава студыі выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці.***

Яна прапанавала ўвазе гледачоў каля 300 работ юных мастакоў (ад 5 да 16 гадоў). Дэвіз выставы - "Які цудоўны гэты свет".

Сапраўды, пад кіраўніцтвам Людмілы Вінакуравай дзяўчынкі і хлопчыкі авалодваюць мастакоўскімі сакрэтамі.

Ужо сёлета Людміла Мікалаеўна арганізавала 11 выстаў.

Шмат шчырых, прыязных слоў прагучала ў адрас студыйцаў Ліды Таболіч, Аксаны Жук, Наталлі Уласавай, Наталлі Кныш, Юлі Івановай, Юлі Ставер і інш.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ.**

## Цяпер у школы ёсць імя

***Днямі дзіцячай музычнай школе № 8 Мінска прысвоена імя стваральніка Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы рэспублікі, вядомага беларускага дырыжора, фалькларыста Рыгора Раманавіча Шырмы.***

Такое рашэнне прыняў Мінскі гарвыканкам па ініцыятыве Міністэрства культуры, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, адміністрацыі школы. "Мы лічым, што менавіта харавы кірунак музычнай культуры - вельмі перспектыўны, - кажа завуч школы Рэгіна Браніславаўна Яцкевіч. - Рыгор Шырма актыўна складаў нацыянальны харавы рэпертуар, стаяў ля вытокаў акадэмічнай харавой культуры Беларусі. І нам трэба гэтыя традыцыі вывучаць і паглыбляць. Менавіта навыкі харавых спеваў - цудоўная аснова для ўсіх, хто жадае займацца любой музычнай дзейнасцю. Да таго ж, такі занятак дае магчымасць развівацца незалежна ад фінансавых праблем. Гэта датычыцца набыцця музычных інструментаў, з чым цяпер часта даводзіцца сутыкацца".

Школе сёлета будзе 32 гады. Харавы кірунак - прыярытэтны ў яе рабоце. На яго тут ускладаецца шмат надзей. Няхай славутае імя "плённага" Рыгора Шырмы дапаможа ім здзейсніцца.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

## Адраджаецца "Зарніца"

***Цікава прайшлі гульні "Зарніца" і "Арляня" ў Маскоўскім раёне Мінска.***

Трыццаць сем каманд, якія прынялі ўдзел у гульнях, прадстаўлялі ўсе школы раёна. Для параўнання: у мінулым годзе ў падобных спаборніцтвах выступала трыццаць адна каманда, а ў пазамінулым - пятнаццаць.

Хлапчукі і дзяўчынкі спаборнічалі ва ўстаноўцы палаткі, пераадоленні паласы перашкод, падцягванні, адцісканні... Савет БелАСТА Маскоўскага раёна арганізаваў для ўдзельнікаў "Зарніцы" і "Арляняці" стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі.

Ва ўпартай барацьбе пераможцамі ў "Зарніцы" сталі каманды 208-й, 145-й і 215-й сярэдніх школ, у "Арляняці" - 209-й, 3-й сярэдніх школ, а таксама ліцэя №1. Усім ім былі ўручаны дыпломы і прызы.

Пасля выступленняў удзельнікі спаборніцтваў змаглі пакаштаваць сапраўднай салдацкай кашы, прыгатаванай у палявой кухні.

**Святлана МАКАРАВА.**

# Пра тэхніку кантролю ведаў і не толькі, з экскурсам у гісторыю

У "Настаўніцкай газеце" ад 28 лютага 2002 года апублікаваны вынікі работы Міністэрства адукацыі ў 2001 годзе і задачы на 2002. Паводле гэтых матэрыялаў, прадугледжана далейшае развіццё сістэмы тэсціравання абітурыентаў. Вызначаны сетка навучальных устаноў і тэрміны правядзення цэнтралізаванага тэсціравання выпускнікоў гэтага года. Пытанні тэстаў можна знайсці ў "Настаўніцкай газеце" ад 27.10.01, 23.02.02 і 2.03.02. Там жа коратка апісана працэдура запаўнення спецыяльных бланкаў і іх апрацоўка (увод адказаў шляхам скaніравання і праверка іх з дапамогай электронна-вылічальнай тэхнікі без удзелу выкладчыкаў-прадметнікаў).

У сваім інтэрв'ю ў "Настаўніцкай газеце" ад 23.03.02 дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў (РІКВ) А.М.Малярэвіч вызначыў дату паяўлення тэсціравання абітурыентаў у Амерыцы - 20-я гады XX стагоддзя. У Еўропе, паводле ягоных слоў, у 70-80-я гады праводзілася тэсціраванне студэнтаў у Афрыцы пад пільнай увагай паліцэйскіх і чыноўнікаў з Англіі. Вынікі тэсціравання паведамляліся праз месяц.

У "Камсамольскай праўдзе" ад 19.03.02 у артыкуле "Здай экзамен у гэтую нядзелю - паступі ў ВНУ" і шэрагу іншых публікацый закранаюцца пытанні гатоўнасці нашых выпускнікоў да тэсціравання як з тэхнічнага боку, так і псіхалагічнага. Адзначаецца, што толькі па беларускай мове і хіміі тэсты распрацаваны беларускімі спецыялістамі, а па астатніх прадметах (матэматыка, фізіка, руская мова) выкарыстоўваюцца расійскія.

> **Любы кантроль ведаў, у тым ліку і тэсціраванне, прадугледжвае і другі бок вучэбнага працэсу - навучанне. Традыцыйныя сродкі кантролю ў сваёй большасці дазваляюць бачыць вынік адказу адразу ж, і вучні маюць магчымасць ведаць, над якімі пытаннямі ім яшчэ трэба папрацаваць. Падобную функцыю можна ажыццяўляць і цяпер, аднак на гэты бок справы ўвага не звяртаецца.**

Тэсціраванне ў нас узаконена, падтрымана на розных узроўнях, створаны Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў. Хацелася б падзяліцца сваімі думкамі наконт нованаўвядзення і прасачыць яго перадгісторыю развіцця ў нашай краіне.

Укараненне элементаў праграміраванага навучання можна аднесці да 1921 года, калі Цэнтральным інстытутам працы быў распрацаваны навуковы метад працоўнай педагогікі, які прадугледжваў увядзенне спецыяльных праграм, паводле якіх увесь аб'ём работ падзяляўся на пэўныя аперацыі і ажыццяўляўся кантроль кожнай з іх, гэта значыць устанаўлівалася пастаянная зваротная сувязь. Такая методыка з 1923 года стала выкарыстоўвацца ў школах ФЗУ.

Найбольш актыўнае ўкараненне праграміраванае навучанне, якое ўключала ў сябе два абавязковыя кампаненты — навучанне і кантроль ведаў, — атрымала на пачатку 60-х гадоў, калі яно вылучылася ў самастойны напрамак педагогікі. У 1964 годзе быў створаны Міжведамасны навуковы савет па праграміраванаму навучанню пад старшынствам акадэміка А.І.Берга. У 1966 годзе ў Маскве была праведзена першая ўсесаюзная канферэнцыя па праграміраванаму навучанню.

У 1970 годзе, надаючы вялікае значэнне сістэматычнаму атрыманню інфармацыі аб якасці ведаў вучняў, Міністэрства асветы СССР уключыла ў "Тыпавыя пералікі вучэбна-наглядных дапаможнікаў і вучэбнага абсталявання для агульнаадукацыйных школ" прыстасаванні для ажыццяўлення кантролю. Гэта азначала:

- у краіне ўжо вялася актыўная работа па распрацоўцы методыкі і арганізацыі вучэбнага працэсу з выкарыстаннем прыстасаванняў для навучання і кантролю. **Мэта - павышэнне эфектыўнасці і якасці працы выкладчыкаў і вучняў шляхам забеспячэння магчымасці дадатковых кантактаў паміж імі з дапамогай тэхнічных сродкаў. За аснову браўся тагачасны вучэбны працэс.** Работа вялася на базе прызнаных тэорый, з дапамогай матэматычных метадаў ствараліся новыя мадэлі навучання, вызначаліся этапы вучэбнага працэсу, аснашчэнне якіх тэхнічнымі сродкамі (ТСН) магло прывесці да значнага станоўчага эфекту;
- неабходныя ТСН распрацоўваліся спецыялістамі рознага профілю як элементы будучай сістэмы, якія маглі працаваць аўтаномна і аб'ядноўвацца ў комплексы на базе сродкаў вылічальнай тэхнікі. Распрацаваныя элементы сістэмы выпрабоўваліся ў педагагічных эксперыментах і ў выпадку поспеху ўкараняліся ў вучэбны працэс;
- праводзілася знаёмства выкладчыкаў (настаўнікаў, складальнікаў) з тэхнічнымі сродкамі кантролю і навучання (менавіта навучання), магчымасцю выкарыстання іх логіка-тэхнічных параметраў, методыкай складання праграм кантролю ведаў, спосабамі выстаўлення адзнак і г.д.

Многія пытанні тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі педагогаў да выкарыстання тэхнічных сродкаў навучання і кантролю вырашаліся ў педагагічных ВНУ ў рамках курса "Тэхнічныя сродкі навучання". Настаўнікаў вучылі вызначаць месца ТСН на ўроку, праводзіць адбор матэрыялу для тлумачэння, замацавання і пры праверцы ведаў. Разглядаліся спосабы арганізацыі вучэбнай дзейнасці на ўроку з выкарыстаннем ТСН, даследавалася самастойная работа школьнікаў у час прагляду кінафільмаў, праслухоўвання запісаў, работы з трэнажорамі і ў лінгафонных кабінетах. Усё гэта давала магчымасць падрыхтаваць настаўніка да выкарыстання тэхнічных сродкаў навучання і кантролю ведаў на ўроках, а вучням - асвоіцца з методыкай апытання і тэхнікай адказу. Апошняе адыгрывае немалаважную ролю.

Узяць хоць бы экзамены ў ДАІ на вадзіцельскае пасведчанне. Ужо некалькі дзесяткаў гадоў яны праводзяцца з дапамогай тэхнікі. Пачыналі з простых электрамеханічных прыстасаванняў, а цяпер выкарыстоўваюцца сучасныя ЭВМ. Падрыхтоўцы да экзамену ў аўташколах адводзіцца некалькі заняткаў. Бо часта прычынай памылковага адказу з'яўляецца не няведанне матэрыялу, а тэхнічная памылка ўводу, недастатковае разуменне пытання, парушэнне чарговасці ўводу, пры гэтым не ўлічваецца паўната адказу і інш.

Колькі слоў пра тэхніку для кантролю ведаў. Першымі, вядома, паявіліся кантрольныя карты. Запоўненая належным чынам кантрольная карта (прататып спецыяльнага бланка для тэсціравання) змяшчалася ў прыстасаванне, якое ў найпрасцейшым выглядзе магло быць выраблена з цвёрдага аркуша паперы. Яго памеры павінны былі адпавядаць памеру кантрольнай карты. Па адтулінах насупраць правільных адказаў вызначаліся дапушчаныя памылкі. Мадэрнізацыяй гэтага спосабу кантролю стала стварэнне перфапланшэтаў або іх аналагаў. У БССР у політэхнічным інстытуце быў створаны і паспяхова прымяняўся прыбор для кантролю і самакантролю ведаў "БПІ-2".

Прыбор складаўся з корпуса, у пазах якога магла рухацца празрыстая пласціна і касета з праграмай кантролю (кантрольная карта). Прагрaма кантролю ўяўляла сабой аркуш паперы стандартнага фармату А4, на левай палавіне якога размяшчаліся кантрольныя пытанні, а на правай - правільныя адказы на іх. Праграма змяшчалася ў дыскету. Касета і празрыстая пласціна ўстаўляліся ў корпус, які запіраўся на ключ.

Для работы з прыборам трэба было выканаць наступныя аперацыі:

1. Пры закрытай празрыстай пласціне высунуць поўнасцю касету.
2. Падняўшы празрысты ліст касеты, пакласці на яе кантрольную карту. Усунуць касету ў корпус.
3. Уставіць ключ у адтуліну і, павярнуўшы яго па гадзіннікавай стрэлцы, высунуць празрыстую пласціну. У акно пакласці чысты аркуш паперы для адказу.
4. Пры поўнасцю адкрытай празрыстай пласціне высунуць да палавіны (да ўпору) касету з праграмай. Прыбор гатовы да работы.
5. Вучань чытае кантрольныя пытанні і на адпаведным месцы аркуша паперы дае свае адказы.
6. Пасля заканчэння работы пласціна засоўваецца назад і замыкаецца.
7. Касету можна разблакіраваць і высунуць поўнасцю, тады вучань можа ўбачыць правільныя адказы і параўнаць іх са сваімі.
8. Пласціна закрыта, таму выправіць свае памылкі вучань ужо не можа.

Аналіз памылак пры такім спосабе кантролю робіцца са спазненнем (ад некалькіх хвілін да некалькіх дзён у залежнасці ад віду тэсціравання). Таму пра кіраванне навучаннем з дапамогай гэтага метаду гаварыць складана. Аднак пры ацэнцы ведаў кантрольным картам аддавалі перавагу ў параўнанні з іншымі, больш складанымі і дарагімі прыстасаваннямі. Да такіх прыстасаванняў адносіліся:

- экзаменацыйная машына "Альфа-1", распрацаваная калектывам лабараторыі апаратуры праграміраванага навучання Львоўскага політэхнічнага інстытута;
- больш дасканалыя машыны "КИСИ-5" і "КИСИ-7", прызначаныя не толькі для кантролю ведаў, але і для навучання, распрацаваныя навукова-даследчай лабараторыяй праграміраванага навучання і вучэбных машын пры КИСИ (Кіеў);
- спецыялізаваная навучальная машына "Лінгва", якую можна было выкарыстоўваць падчас экзаменаў і залікаў, а таксама для самакантролю і кансультацый, распрацаваная ў Маскоўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце;
- беларускі аўтамат самападрыхтоўкі і кантролю АСПК-7Б "Мінчанка", прызначаны для вывучэння розных вучэбных дысцыплін, якія дапускаюць лічбавыя або закадзіраваныя лічбамі адказы;
- комплекс кантролю ведаў "ДС-1004", распрацаваны ў Расіі на базе мікраЭВМ, які ў працэсе франтальнага апаратыўнага кантролю мог паказваць на экране заданні з дапамогай аўтаматычнага дыяпраектара. Аналагічны комплекс на базе мікраЭВМ "М4Т" быў распрацаваны ў Венгрыі;
- аўтаматызаваная тэлевізійная навучальная сістэма (АТНС), распрацаваная ў Беларускім політэхнічным інстытуце на базе ЭВМ. Яна вызначалася расшыранымі дыдактычнымі магчымасцямі (адлюстраванне спецыяльных знакаў і графікаў, магчымасць запісу "шматпавярховых" матэматычных і хімічных выразаў, аўтаматычны запіс многасімвальнай інфармацыі). У класе АТНС на кожным рабочым месцы былі ўстаноўлены дысплеі, якія забяспечвалі дыялогавае ўзаемадзеянне з ЭВМ.

Гэта далёка не поўны спіс тэхнікі, якая выкарыстоўвалася для кантролю ведаў і навучання. Аднак складанае канструктыўнае рашэнне гэтых прыбораў абумоўлівала і больш высокі іх кошт, а значыць і меншую іх распаўсюджанасць у навучальных установах.

Тым не менш выпускаўся шэраг арыгінальных тэхнічных сродкаў кантролю, якія пры нязначным кошце валодалі шырокімі дыдактычнымі магчымасцямі. Да іх у першую чаргу адносяцца клас модульны аўтаматызаваны АМК-1 і прыбор кантролю ведаў ПКВ.

Клас модульны аўтаматызаваны выпускаўся ў двух варыянтах. Гэта - АМК-1-5 з выбарам адказаў "адзін з пяці" і АМК-1-10 з выбарам адказаў "адзін з дзесяці".

Мантаж і эксплуатацыя класа, у якім у якасці датчыкаў уводу выкарыстоўваліся кнопкавыя сэнсарныя выключальнікі, былі нескладанымі, а яго абслугоўванне - выключна простым. Аднaчасова можна было працаваць з 42 вучнямі па двух варыянтах. Рэжымаў работы было некалькі: "Кантроль-1,2,3,4" і "Самакантроль". Была прадугледжана магчымасць падключэння суматара агульнай паспяховасці і блока памяці.

У прыборы кантролю ведаў выкарыстоўвалася дыскавая сістэма ўводу адказу, што дазваляла, акрамя лічбаў, уводзіць сімвалы адказу - гэта значна пашырала яго магчымасці ў параўнанні з АМК.

Экскурс у гісторыю паказвае, што праблема кантролю ведаў мае даўняе паходжанне. Яна даследавалася ў розных краінах на працягу дзесяцігоддзяў, аднак і цяпер не страціла сваёй актуальнасці. Гэта звязана з многімі фактарамі.

Па-першае, з паяўленнем камп'ютэрнай тэхнікі ў горшы бок змянілася стаўленне да тэхнічных сродкаў навучання. Чамусьці толькі з паяўленнем ЭВМ сталі звязваць так званыя новыя інфармацыйныя тэхналогіі, у далейшым больш сціпла - проста інфармацыйныя тэхналогіі. Але ж пры зборы, захоўванні, апрацоўцы і дастаўцы інфармацыі даўно і паспяхова выкарыстоўваліся такія тэхнічныя сродкі, як фатаграфія, гуказапіс, кіназдымка, відэазапіс. Сапраўды, ЭВМ як тэхнічны сродак навучання больш адпавядае сучасным патрабаванням апрацоўкі вялікага патоку інфармацыі. Але не трэба адмаўляцца і ад ТСН, якія добра сябе зарэкамендавалі і ў некаторых выпадках таннейшыя, больш надзейныя і простыя ў эксплуатацыі.

Па-другое, паяўленне новай тэхнікі паўплывала і на ролю кафедраў тэхнічных сродкаў навучання, якія былі ва ўсіх педагагічных ВНУ і нават у шэрагу тэхнічных і гуманітарных вышэйшых навучальных устаноў. У іншых ВНУ былі, прынамсі, аддзелы або лабараторыі тэхнічных сродкаў навучання. Пад уплывам новых павеваў часу гэтыя кафедры былі перайменаваны ў кафедры інфарматыкі, інфармацыйных тэхналогій і г.д. ці зусім расфарміраваны і ўключаны ў склад кафедр методыкі выкладання фізікі або матэматыкі.

(У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка кафедры тэхнічных сродкаў навучання хутка споўніцца пяцьдзесят гадоў. Захаванне гэтага структурнага падраздзялення станоўча паўплывала на стварэнне пакета нарматыўных дакументаў бесперапыннай педагагічнай адукацыі новага пакалення. У адукацыйных стандартах захаваны курс "Тэхнічныя сродкі навучання". Кафедрай у 2000 годзе распрацавана і выдадзена тыпавая праграма па гэтаму курсу, апублікаваны вучэбны дапаможнік для студэнтаў педагагічных спецыяльнасцей. У 2001 годзе рукапіс дапаможніка для настаўнікаў "Тэхнічныя сродкі навучання ў школе" Э.М.Краўчэні рэкамендаваны да выдання навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і ўключаны ў план на 2002 год.)

> **Чаму б не сумясціць тэсціраванне з выпускнымі экзаменамі, тым самым надаўшы яму большую галоснасць і рацыянальнасць? Тэсціраванне, якое праводзіцца па тэстах РІКВ, у час уступных экзаменаў павысіць давер да яго, зробіць падкантрольным як з боку ВНУ, так і з боку прэзідэнцкай кантрольнай камісіі.**

Па-трэцяе, гэта асаблівасці правядзення тэсціравання ў рэспубліцы. Як яно праходзіць тэхнічна, было сказана вышэй. Вынікі тэсціравання аб'яўляюцца прыкладна праз месяц. З метадычнага пункту гледжання гэта няправільна. Любы кантроль ведаў, у тым ліку і тэсціраванне, прадугледжвае і другі бок вучэбнага працэсу - навучанне. Традыцыйныя сродкі кантролю ў сваёй большасці дазваляюць бачыць вынік адказу адразу ж, і вучні маюць магчымасць ведаць, над якімі пытаннямі ім яшчэ трэба папрацаваць. Падобную функцыю можна ажыццяўляць і цяпер, аднак на гэты бок справы ўвага не звяртаецца.

**Тэрміны правядзення тэсціравання таксама, на нашу думку, выбраны няўдала.** Сёлетнія выпускнікі павінны дасягнуць піку сваіх ведаў да моманту яго правядзення. Цяпер гэта - сакавік-красавік, а выпускныя экзамены ў школах праходзяць з канца мая і да сярэдзіны чэрвеня. Гэта значыць да ўступных экзаменаў, якія праходзяць у другой палове ліпеня, выпускніку гэтага года (менавіта яны складаюць большасць абітурыентаў) трэба рыхтавацца па-новаму. Пры гэтым неабходна адзначыць, што вынікі тэсціравання не з'яўляюцца абавязковымі ні для дырэкцыі школы, ні для прыёмных камісій вышэйшых навучальных устаноў. Яны могуць іх не ўлічваць хоць бы па той прычыне, што ім не давяраюць. Бо ў дванаццаці школах, што знаходзяцца пад кантролем РІКВ, тэсціраванне праводзяць супрацоўнікі гэтай установы, а не настаўнікі-прадметнікі, якія падрыхтавалі вучняў. Чаму б не сумясціць тэсціраванне з выпускнымі экзаменамі, тым самым надаўшы яму большую галоснасць і рацыянальнасць? Тэсціраванне, якое праводзіцца па тэстах РІКВ, у час уступных экзаменаў павысіць давер да яго, зробіць падкантрольным як з боку ВНУ, так і з боку прэзідэнцкай кантрольнай камісіі.

Хацелася б звярнуць увагу і на маральны бок пытання. Чаму вучань (дакладней, бацькі), які заплаціў на добраахвотнай аснове грошы за тэсціраванне, не мае:

- практыкі і навыкаў работы з тэстамі;
- магчымасці іх адпрацоўкі па школьных падручніках;
- магчымасці выбару мовы тэсціравання (вучні сельскіх школ вучацца на беларускай мове);
- гарантыі выкарыстання вынікаў тэсціравання па свайму меркаванню (залічыць іх замест выпускнога або ўступнага экзаменаў).

Лічым, што Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў (звярніце ўвагу: не тэсціравання, а кантролю ведаў) мог бы ўзяць на сябе вырашэнне многіх пытанняў, акрэсленых вышэй. А менавіта: кіраўніцтва распрацоўкай тэстаў для школ, ВНУ і іншых навучальных устаноў, стварэнне або аднаўленне тэхнічных прыстасаванняў кантролю, даследаванне эфектыўнасці тэсціравання ў сістэме адукацыі. Гэта стварыла б роўныя ўмовы для вучняў, павысіла б статус самога інстытута, зняло б пытанні наконт "законнасці" тэсціравання за грошы, хоць бы і на добраахвотнай аснове.

Па-чацвёртае - **якасць тэстаў і стаўленне да іх.** Як ужо адзначалася вышэй, не ўсе яны падрыхтаваны ў нас у рэспубліцы. Не лішне задацца пытаннем: ці адпавядаюць расійскія тэсты нашым падручнікам, праграмам, вучэбным планам? Тут нам бачыцца ў перспектыве наступнае: пры падрыхтоўцы да выдання чарговага падручніка для школы неабходна сумесна з аўтарам (аўтарскім калектывам) паралельна распрацоўваць сістэму кантрольных пытанняў для самаправеркі (тэстаў), якія змяшчаюцца ў самім падручніку або дадатку да яго. Натуральна, самаправерка павінна быць арганізавана ў кожнай школе. Значыць, трэба думаць пра уніфікацыю тэсціравання, азнаямленне з методыкай і практыкай кантролю ведаў настаўнікаў школ. Гэта дасць магчымасцьураўняць шанцы вучняў, веды якіх, атрыманыя ў розных школах і ў розных выкладчыкаў, моцна адрозніваюцца. Маючы матэрыялы тэстаў па ўсіх прадметах, якія ў розных варыяцыях будуць выкарыстоўвацца на выпускных і ўступных экзаменах (на нашу думку, у хуткім часе яны будуць сумешчаны), вучань можа сам або з дапамогай свайго настаўніка падрыхтавацца да экзаменаў.

Наконт стаўлення да тэсціравання. Я ведаю толькі адну вышэйшую навучальную ўстанову - Віцебскі дзяржаўны медыцынскі універсітэт, - дзе па абсалютнай большасці прадметаў (у першую чаргу спецыяльных) распрацавана і паспяхова выкарыстоўваецца тэставая сістэма праверкі ведаў. На жаль, іншыя медыцынскія ВНУ не толькі не працуюць у гэтым напрамку, але і не выкарыстоўваюць тэсты, распрацаваныя іх калегамі. Вось тут - вялікая роля Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, які мог бы, і павінен, узяць на сябе функцыі каардынацыі распрацоўкі тэстаў не толькі для школы, але і для вышэйшых навучальных устаноў.

Магчыма, трэба было б звярнуць увагу і на спосаб (маюцца на ўвазе тэхнічныя прыстасаванні) ажыццяўлення кантролю ведаў. Запаўненне карты, скaніраванне і апрацоўка вынікаў з дапамогай ЭВМ даступныя практычна ў любой навучальнай установе. Але ж гэта, па-першае, "папяровая" тэхналогія, па-другое, працаёмкая работа, і, па-трэцяе, нельга выключаць магчымасці памылак пры апрацоўцы. Правядзенне тэсціравання на базе класаў тыпу АМК або класаў ЭВМ (апошнія сёння ёсць практычна ў кожнай навучальнай установе) дазволіла б зменшыць затраты, скараціць час апрацоўкі адказаў, павысіць давер да вынікаў тэсціравання, праводзіць яго ў зручны час. Магчыма, мэтазгодна запрашаць да ўдзелу ў тэсціраванні выкладчыкаў педагагічных універсітэтаў. З аднаго боку, яны маглі б навучыць настаўнікаў карыстацца тэхнікай, што прымяняецца ў час тэсціравання, а з другога - у ВНУ ёсць нямала прыватных распрацовак камп'ютэрных праграм навучання і кантролю для рознага роду вылічальнай тэхнікі. Не сакрэт, што і асноўную частку падручнікаў для школ распрацоўваюць і пішуць выкладчыкі або аўтарскія калектывы вышэйшых навучальных устаноў. Хто можа і павінен аб'яднаць магчымасці і намаганні патэнцыяльных саюзнікаў у ажыццяўленні такога важнага этапа вучэбнага працэсу, як кантроль ведаў?

**Эдуард КРАЎЧЭНЯ,
загадчык кафедры
тэхнічных сродкаў навучання
Беларускага дзяржаўнага
педагагічнага універсітэта
імя Максіма Танка, дацэнт.**

# Прынцып альтэрнатыўнасці ў паслядыпломнай адукацыі

***Сярод фактараў, ад якіх залежыць сёння ўздым беларускай эканомікі, на першы план выходзіць праблема якасці. Якасці не толькі тэхналогій вытворчасці, спажывецкіх уласцівасцей тавараў і паслуг, але і больш высокага парадку - падрыхтоўкі спецыялістаў.***

У сучасных умовах якасць - гэта фундаментальная галіна ведаў, якая выходзіць за межы інфармацыі, што ўтрымліваецца ў прававых і нарматыўных дакументах. Гэта сфера навуковай арганізацыі дзейнасці грамадства. Перш чым пачаць абмеркаванне праблемы якасці адукацыі, неабходна прыняць пад увагу вялікі айчынны і замежны вопыт у пытаннях кіравання якасцю.

Якасць падрыхтоўкі спецыялістаў - гэта сукупнасць уласцівасцей і характарыстык, якія вызначаюць гатоўнасць спецыялістаў да эфектыўнай прафесійнай дзейнасці і хуткай адаптацыі ва ўмовах тэхнічнага прагрэсу, уменне выкарыстоўваць атрыманыя веды пры вырашэнні прафесійных задач.

Адным са спосабаў ацэнкі якасці падрыхтоўкі ў сістэме паслядыпломнай адукацыі з'яўляецца падыход, заснаваны на аналізе прафесійнай дзейнасці. Вышэйшая навучальная ўстанова сістэмы павышэння кваліфікацыі аказвае паслугі тром суб'ектам: асобе, навучальнай установе і дзяржаве, якая выступае гарантам адукацыйнага працэсу. І калі патрабаванні дзяржавы і навучальнай установы аформлены дакументальна ў выглядзе адукацыйных стандартаў і ведамасных патрабаванняў, ліцэнзаваннем адукацыйных праграм, атэстацый і акрэдытацый, то патрабаванні спажыўца адукацыйных паслуг - асобы - не аформлены дакументальна і не даведзены да навучальнай установы.

Якія магчымасці мае слухач, каб ацаніць якасць сваёй вучобы ва ўстанове сістэмы павышэння кваліфікацыі? Звярнуцца да адукацыйнага стандарту або на сабе выпрабаваць ступень прафесійнай запатрабаванасці. Аднак спецыфіка прадастаўлення падобных адукацыйных паслуг заключаецца ў тым, што вынік навучання залежыць ад намаганняў абодвух бакоў - слухача і ўстановы. Істотную ролю тут адыгрывае суб'ектыўны фактар, і патрабуецца вялікая выбарка слухачоў для статыстычнай апрацоўкі вынікаў абследавання ўзроўню падрыхтоўкі.

Як паказала міжнародная практыка, для эфектыўнай дзейнасці ўстановы сістэмы павышэння кваліфікацыі неабходна стварэнне сістэмы якасці, заснаванай на дасягненнях сучаснага вопыту і выніках навуковых даследаванняў. Яе прызначэнне ў тым, каб заяўлены ўзровень якасці адукацыйных паслуг быў гарантаваны для слухачоў устаноў сістэмы павышэння кваліфікацыі.

Аналіз вынікаў навуковых даследаванняў дазваляе выдзеліць наступныя характарыстыкі адукацыйных паслуг для слухача (асобы): тэрмін і форма навучання; веды і ўменні узроўні падрыхтоўкі); змест вучэбнай праграмы (пералік і аб'ём дысцыплін і практыкі); паказчык кадравага забеспячэння вучэбнага працэсу; віды тэхналогій навучання; інфармацыйнае забеспячэнне (наяўнасць бібліятэкі, Інтэрнэта); паказчыкі якасці падрыхтоўкі выпускнікоў; статус дакумента, які выдаецца пасля заканчэння; узровень псіхафізіялагічных параметраў асобы да і пасля навучання і інш.

Гэты пералік не прэтэндуе на паўнату. Аднак яго аналіз можа дапамагчы ўстановам сістэмы павышэння кваліфікацыі мадэляваць сістэму якасці, накіраваную на павышэнне ўзроўню адукацыйных паслуг.

Задача сучаснай сістэмы павышэння кваліфікацыі, на нашу думку, заключаецца не столькі ў спробе стымулявання і навязвання навучальных ініцыятыў слухачам, колькі ў стварэнні ўмоў для рэалізацыі іх творчых намаганняў і арганізацыі самастойнай работы. Неабходны псіхолага-педагагічныя ўмовы для інтэлектуальнай ініцыятывы і мыслення ва ўсіх формах заняткаў. Адной з іх можа быць прынцып альтэрнатыўнасці ў навучанні.

Разгледзім магчымасці і формы рэалізацыі гэтага прынцыпу ў традыцыйных адукацыйных тэхналогіях у дачыненні да павышэння кваліфікацыі слухачоў курсаў.

Традыцыйная форма выкладання матэрыялу - лекцыя. Гэта першапачатковы этап працэсу вывучэння дысцыпліны, таму "альтэрнатыўнасць" набывае павучальны, дэманстрацыйны характар. Калі традыцыйная лекцыя як сістэма аднабаковай перадачы інфармацыі ад выкладчыка да слухача прыводзіць да знікнення адукацыйнай матывацыі і самастойнасці ў рабоце слухачоў, то ўкараненне прынцыпу альтэрнатыўнасці ў лекцыю фарміруе крытычны падыход да вывучэння прадметнага матэрыялу. Напрыклад, лектар павінен сказаць, што праблема да гэтага часу не мае адназначнага вырашэння, што існуе мноства пунктаў гледжання і г.д. Мэтазгодна падкрэсліць: разглядаецца агульны або прыватны выпадак; выкладаецца дакладнае або прыблізнае рашэнне; вынік атрыманы тэарэтычна або эксперыментальна і да т.п. Асаблівы акцэнт трэба зрабіць на адноснасці і шматфактарнасці працэсу або з'явы, якія вывучаюцца.

Падчас такой лекцыі неабходна кантраляваць ступень засваення слухачамі матэрыялу. Экспрэс-кантроль дазваляе праверыць здольнасці слухачоў арыентавацца ў кантэксце і знаходзіць адказы на асноўныя пытанні лекцыі. Альтэрнатыўная форма пытанняў патрабуе аналізу і супастаўлення матэрыялу лекцыі. Пры падвядзенні вынікаў можна выкарыстоўваць кантрольныя пытанні, адказы на якія павінны быць дыферэнцыраваны па альтэрнатыўных прыкметах.

Для рэалізацыі прынцыпу альтэрнатыўнасці на практычных занятках неабходна перайсці ад квазісамастойнай работы "па ўзору" з выдачай гатовых рашэнняў да істотнай перапрацоўкі традыцыйных задач. Парадак выканання тыповай задачы павінен быць зразумелым і простым. У той жа час слухачу прадастаўляецца магчымасць выбару варыянтаў вырашэння (даследавання). Першапачатковыя вынікі павінны быць ацэнены самім слухачом з пункту гледжання цвярозага розуму і прафесійнага вопыту. Важна, каб слухач праявіў ініцыятыву ў плане змянення методыкі практычнай работы. Выкладчык павінен падкрэсліць альтэрнатыўнасць выбару правільнага рашэння на аснове крытычнага разгляду аналагаў.

Пры выкананні індывідуальнай заліковай работы (рэферата) прынцып альтэрнатыўнасці праяўляецца ў свабодзе выбару тэмы, стылю выкладання матэрыялу, сістэмы доказаў, падборы літаратуры. Выбар альтэрнатыўнага варыянта можа адбывацца паводле наступных крытэрыяў: тэхналагічна - нетэхналагічна, канструктыўна - неканструктыўна, проста - складана і г.д. У рэфераце прынцып альтэрнатыўнасці закладзены з самага пачатку, бо слухач арыентаваны на пошук лепшага варыянта вырашэння выбранай праблемы. Пры гэтым набыты навык разгляду сабранага фактычнага матэрыялу дазваляе ператвараць атрыманыя веды ў сродак актыўнага дзеяння.

Такім чынам, прынцып альтэрнатыўнасці дапамагае ўдасканальваць адукацыйны працэс у сістэме павышэння кваліфікацыі, набліжаючы яго да больш высокай ступені самастойнай работы слухачоў. Яго сутнасць заключаецца ў звароце выкладчыка не да памяці, а да розуму слухача, што забяспечвае сумесную інтэлектуальную дзейнасць па павышэнню прафесійнага майстэрства.

**Валерый ПЕТРАКОЎ,
дэкан факультэта кіравання
і тэхналогій адукацыі РІВШ БДУ.**

# Паміж пустак, балот

## нарадзіўся нацыянальны сад з характэрнымі асаблівасцямі розных рэгіёнаў Беларусі

**Яго стваральнікамі сталі школьнікі - удзельнікі I Рэспубліканскага конкурсу экалагічных праектаў ландшафтнай архітэктуры ”Захаваем планету жывой і зялёнай”**

### Архетып

Калі гаварыць філасофскімі тэрмінамі, то сад, здавалася б, досыць цяжка аднесці да беларускіх архетыпаў. Гэта нібыта яскрава пацвярджае наша літаратура сваёй вобразнасцю: скрозь пусткі, балоты, нівы, лясы, сенажаці, і толькі дзе-нідзе, пераважна ў паэтаў "чыстай красы" - хрызантэмы, гіяцынты, астры - атрыбуты саду.

Аднак жа давайце ўчытаемся. Вось характэрныя радкі - з верша Ларысы Геніюш "Астры", напісанага, што немалаважна, на чужыне:

*Так цвітуць,*
*цвітуць белыя астры,*
*ды чаруюць на градах*
*да слёз,*
*душу толькі,*
*як быццам бы ястраб,*
*да ніў родных*
*на векі аднёс.*

Разбярэм па паліцах гэтую відавочную апазіцыю: "нівы - астры". Калі да ніў цягне ДУШУ паэта, дык астры менавіта чаруюць, гэта значыць, чаруюць ВОКА паэта. Калі нівы азначаюць Радзіму (Радзіму наогул, Радзіму з вялікай літары), дык астры атаясамліваюцца для паэта з радзімай маленькай і цяперашней - радзімай як адгалоскам той вялікай Радзімы з усімі яе нівамі (лугамі, сенажацямі, пусткамі, балотамі і г.д.).

Усё гэта падводзіць нас да нечаканай высновы: астры як тое найбліжэйшае, што можна рэальна адчуць і што ў дадзены момант чаруе да слёз (бо нагадвае пра Радзіму), ёсць не што іншае, як метафара - метафара родных ніў, метафара Радзімы.

Астры - гэта значыць, сад. Сад - як адвечная метафара Радзімы. Сад - як мара пра беларускі Эдэм. Сад - як самы першасны беларускі архетып, што "хаваецца" за роднымі нівамі.

Або, паводле Купалы, "хаваецца" за пусткамі і балотамі:

*Паміж пустак, балот*
*беларускай зямлі,*
*На ўзбярэжжы*
*ракі шумнацечнай,*
*Дрэмле памятка дзён,*
*што ў нябыт уцяклі,-*
*Ўдзірванелы курган*
*векавечны.*

Але на кургане, як вядома, "лет назад таму сотня ці болей, белы храм стаяў..."

Вакол храма абавязкова мусіў быць Сад.

### Конкурс

27-28 мая ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва адбыўся I Рэспубліканскі конкурс экалагічных праектаў ландшафтнай архітэктуры "Захаваем планету жывой і зялёнай".

Ініцыятарам конкурсу выступіла дзіцячая грамадская экалагічная арганізацыя "Зялёная планета" (існуе пры Рэспубліканскім цэнтры, кіраўнік - Галіна Савельева). Праект юных эколагаў з "Зялёнай планеты" быў ухвалены прадстаўніцтвам карпарацыі "ISAR Inc." і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, якія аказалі фінансавую і арганізацыйную падтрымку конкурсу. У прыватнасці, карпарацыя "ISAR Inc." (дзейнічае ў Беларусі з мінулага года і займаецца фінансаваннем экалагічных праектаў) выдзеліла на рэалізацыю конкурсу "Захаваем планету жывой і зялёнай" 2000 долараў.

У конкурсе прынялі ўдзел выхаванцы гурткоў юных кветкаводаў, азеляніцеляў і ландшафтнай архітэктуры ўстаноў пазашкольнага выхавання і навучання - усяго пяць каманд з г. Мінска і абласцей краіны (за выключэннем Гомельскай і Магілёўскай, прадстаўнікі іх не змаглі прыехаць у сталіцу па тэхнічных прычынах).

Конкурс складаўся з трох этапаў: хатняга задання "Мой родны кут" (каманднае спаборніцтва), тэарэтычнага і практычнага тураў (адзіночнае спаборніцтва).

Хатняе заданне "Мой родны кут" было самым адказным і складаным, бо яго выкананне вымагала ад юных эколагаў грунтоўных ведаў аб раслінах сваёй малой радзімы, уменняў і навыкаў па пасадцы і догляду за імі. Дзецям з розных рэгіёнаў краіны прапаноўвался стварыць на загадзя адведзеным участку на тэрыторыі Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра фрагменты ўласных нацыянальных "кутКоў" з характэрнымі рэгіянальнымі асаблівасцямі. Натуральна, што і расліны (па ўмовах конкурсу кампазіцыя павінна была ўключаць у сябе хваёвыя і лісцевыя кустовыя, пакаёвыя, кветкавадэкарытыўныя расліны, прычым не менш за 30 працэнтаў з іх мусілі складаць шматгадовыя культуры), і малыя архітэктурныя формы (кераміка, лозапляценне і да т.п.) дзеці павінны былі прывезці ў сталіцу самі.

Кампазіцыі вучняў ацэньвала кампетэнтнае журы (навуковыя супрацоўнікі Цэнтральнага батанічнага сада НАН РБ) па шэрагу крытэрыяў: сумяшчальнасці раслін, неперарыўнасці іх цвіцення, эксперыментальнасці кампазіцыі, яе мастацкасці, адпаведнасці мастацкай ідэі яе літаратурнай ідэі (увасобленай у паэтычных назвах работ) і г.д.

Паводле гэтых патрабаванняў і вызначаліся пераможцы: 3-е месца - каманда гарадскога эколага-натуралістычнага цэнтра дзяцей і моладзі горада Барысава (кампазіцыя "Мой родны кут"), 2-е месца - каманда экалагічнага цэнтра абласнога аб'яднання па пазашкольнай рабоце горада Віцебска (кампазіцыя "Куток Прыдзвіння") і 1-е месца - каманда экалагічнгага цэнтра дзяцей і моладзі горада Ліды (кампазіцыя "І тчэ, забыўшыся, рука цвяток радзімы васілька..."). Спецыяльнымі прызамі былі ўзнагароджаны аб'яднаная каманда Брэсцкай вобласці (Брэст, Кобрын, Белалазёрск, Баранавічы) і каманда Рэспулібканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва.

Застаецца дадаць, што гэткі конкурс праводзіўся ўпершыню, прычым не толькі ў Беларусі, але і наогул ва ўсёй Еўропе. І цяпер, калі ён скончыўся, ягоныя арганізатары спадзяюцца, што фрагменты нацыянальных "куткоў", якія стварылі за два дні школьнікі, стануць добрым прыкладам для пераймання і наглядным жывым дапаможнікам для навучальна-выхаваўчай работы не аднаго пакалення натуралістаў.

### Прыклад для пераймання

Нядаўна дырэктару Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва Лідзіі Каліноўскай давялося пабываць у Германіі і ўвачавідкі пазнаёміцца з вопытам тамтэйшага экалагічнага выхавання.

- Гэта сапраўды так: людзі не ходзяць там па газонах і найлепшым транспартам лічаць веласіпед, - падзялілася Лідзія Паўлаўна сваімі ўражаннямі. - Такія паводзіны і ўяўленні немцаў (напэўна, ужо на падсвядомым узроўні) - вынік той агромністай інфармацыйнай плыні, якая абрынаецца на іх штодня ў выглядзе розных заклікаў, плакатаў, экалагічных выданняў, сацыяльнай рэкламы па тэле і г.д. Усё гэта, вядома ж, выдатна, але, як мне падалося, ім не хапае галоўнага - акурат таго, што ў вялікім патэнцыяле ёсць у нас, а менавіта: нашай стараннасці, нашых працоўных навыкаў, нашай, у рэшце рэшт, сціпласці і непераборлівасці.

Падчас той паездкі ў Германію мы пабачылі не адну нямецкую школу. Мы былі проста ўражаны: Божа мой, на прышкольным участку растуць два кабачкі і нейкія тры кволенькія кветачкі - і на гэта яны ўжо моляцца! Больш за тое: урад Германіі гатовы выдзеліць любой нямецкай школе 5000 еўра - толькі каб на тэрыторыі школы з'явіўся хаця б невялікі садова-паркавы куточак з элементамі даўніны! І з якой жа неахвотай бяруцца за гэта школы! Уражанне такое, што яны наогул баяцца там усялякай дзіцячай працы... Каб жа нам з нашым імпэтам ды іх фінансавыя магчымасці і тэхналогіі...

У адрозненне ад Германіі, у нас, у прыватнасці у Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва, дзіцячай працы не баяцца. Іншая справа - як зацікавіць дзяцей, каб іхняя праца прыносіла ім задавальненне і карысць, а не была прымусовай?

- Рэч у тым, што сёння мы вырашылі ў корані перагледзець падыходы да арганізацыі працы дзяцей на вучэбна-вопытных участках або, як мы цяпер іх называем, эколага-біялагічных комплексах, - патлумачыла Лідзія Паўлаўна. - Паездзіўшы па нашых школах, пабачыўшы, як практычна наладжана праца вучняў, мы зразумелі, што дзеці не хочуць там працаваць па адной прычыне - ім проста нецікава. Мы зразумелі, што зацікавіць дзяцей можна толькі нейкай прыгожай і глыбокай ідэяй, якая б адразу спалучала некалькі момантаў: экалагічны, эстэтычны, пачуццёвы, нацыянальны. Апошняе, бадай, самае галоўнае. Бо для таго, каб займацца экалогіяй і біялогіяй, ні ў якім разе нельга адыходзіць ад сваіх нацыянальных каранёў. Калі мы пачалі падрабязна вывучаць гэтую праблему, высветлілася, што ў нашых продкаў была цудоўная культура садоўніцтва, што яны вельмі добра ўсведамлялі, наколькі моцна ўздзейнічае прырода на фарміраванне чалавечых пачуццяў.

Гэтак спакваля і нарадзілася ў нас ідэя новай праграмы для пазашкольных устаноў эколага-біялагічнага профілю, над якой мы цяпер працуем. Галоўная задача яе, калі гаварыць спрошчана, - на аснове нашых нацыянальных традыцый рабіць нешта новае згодна з сучаснымі патрабаваннямі. Конкурс "Захаваем планету жывой і зялёнай" - адзін з першых крокаў па практычнай рэалізацыі гэтай праграмы. І той сад, які пасадзілі канкурсанты, можа быць сведчаннем таго, што такі нацыянальны куток - справа самая што ні ёсць рэальная. Асабліва для пазашкольных устаноў.

### Сад уяўленняў

Ёсць яшчэ адзін вельмі істотны момант, які вылучае новастораны нацыянальны сад у Рэспубліканскім экалагічным цэнтры сярод традыцыйных вучэбна-вопытных прышкольных участкаў. Гэта - момант індывідуальных фантазій і ўяўленняў яго стваральнікаў.

Аглядаючы напрыканцы конкурсу новастораныя "шэдэўры" (а менавіта такім быў дэвіз конкурсу: "Тварыць сваімі рукамі, ствараючы са звычайных раслін і прадметаў сапраўдныя шэдэўры"), я нават не мог уявіць, што гэта насамрэч калектыўная праца мноства дзіцячых рук - настолькі арыгінальнымі, сапраўды унікальнымі атрымаліся ландшафтныя кампазіцыі вучняў. І здавалася проста нерэальнай прывычная традыцыйная карцінка: пад наглядам настаўніка дзеці корпаюцца ў градках і "добраўпарадкоўваюць" тэрыторыю...

Аднак жа, як ні дзіўна, - я ж бачыў сам гэта на свае вочы! - усё было гэтак жа. Амаль гэтак жа. Дзеці завіхаліся ў градах. Пад наглядам настаўнікаў. Толькі не "добраўпарадкоўваючы", а СТВАРАЮЧЫ сваю тэрыторыю - тэрыторыю дабра, прыгажосці, індывідуальных уяўленняў і летуценняў... Тэрыторыю, аднолькава раўнапраўнымі і жывымі насельнікамі якой рабіліся нарцызы і прымулы, флёксы і астры, камяні і стылізаваны калодзеж...

Наперадзе яшчэ - цэлае лета.

Сад уяўленняў адкрыты для ўсіх летуценнікаў.

**Мікола ЧЭМЕР.**

НА ЗДЫМКАХ: незабыўныя моманты стварэння нацыянальнага саду.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**





# "Экастоп"

***У рамках I рэспубліканскага конкурсу экалагічных праектаў ландшафтнай архітэктуры "Захаваем планету жывой і зялёнай" адбылася прэм'ерная пастаноўка спектакля "Бедалага" вучнёўскага экалагічнага тэатра "Экастоп".***

Тэатральная студыя і тэатр "Экастоп" працуюць пры Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва, аб'яднаўшы вакол сябе некалькі дзесяткаў вучняў з розных школ дванаццаці-шаснаццацігадовага ўзросту (кіраўнікі студыі і, адпаведна, рэжысёры тэатра - Святлана Яцэвіч і Валянціна Праўдзіна). На рахунку тэатра - не адзін тузін спектакляў, закліканых па-мастацку данесці экалагічную ідэю перш-наперш аднагодкам саміх акцёраў. Не выключэннем стаў і прэм'ерны спектакль "Бедалага", які быў цёпла сустрэты ўсімі ўдзельнікамі рэспубліканскага конкурсу "Захаваем планету жывой і зялёнай".

Гэта своеасаблівы "зборны" спектакль, сцэнарый для якога напісалі калектыўна дарослыя кіраўнікі тэатра і іх выхаванцы, выкарыстаўшы творы розных аўтараў, у тым ліку знакамітага амерыканскага фантаста Рэя Брэдберы. Дзеянне адбываецца ў дваццаць трэцім стагоддзі, калі над усім чалавецтвам пануюць камп'ютэры, а людзям застаецца выконваць ролю паслухмяных марыянетак у руках бяздушных лялькаводаў. Бедалага - гэтак завуць апошнюю жывёлінку на планеце, якую дзеці, героі спектакля, з усіх сіл намагаюцца выратаваць ад машын і дарослых, каб тыя не пачалі ставіць над ёй доследы. Вядома ж, пастаўлены перад фатальным выбарам і самі героі: па дасягненні пэўнага ўзросту ў мозг дзяцей будучыні камп'ютэр мусіць укласці сваю праграму, здольную задушыць усе натуральныя чалавечыя і творчыя памкненні, генетычна закладзеныя ў жывым арганізме. Балазе, па законах "аптымістычнай трагедыі", дабро перамагае над злом, і Жывое з вялікай літары ў рэшце рэшт вырашае само свой лёс.

Як сказала мне рэжысёр тэатра Валянціна Праўдзіна (дарэчы, студэнтка факультэта тэатральнага жывапісу БДАМ, па ўзросце яна не нашмат адарвалася ад саміх акцёраў), у студыі сабраліся акурат тыя дзеці, якія падтрымліваюць адчуванне прыроды ў сваёй душы. Можна толькі здзіўляцца іх энтузіязму і энергічнасці, якіх хапае не толькі на заняткі ў загружаных агульнаадукацыйнымі праграмамі сярэдніх школах, але і на тое, каб кожныя выхадныя рэгулярна наведацца ў Рэспубліканскі экалагічны цэнтр, спачатку дагледзець там жывёльных і раслінных яго жыхароў, а потым заняцца і экалогіяй уласна душы, то бок, тэатральнай мастацкай творчасцю.

Сапраўды, выхаванцы Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра жывуць дружнай творчай сям'ёй, і многія з удзельнікаў "Экастопа" наведваюць не толькі тэатральную студыю, але і іншыя гурткі цэнтра. У гэтым, магчыма, і затоены ўвесь сэнс. Калі пра пачатак тэатра "Экастоп" па аналогіі са знакамітым выказваннем яшчэ можна спрачацца: ці гэта тая самая славутая вешалка, ці гэта жывапісныя "ландшафты" тэрыторыі экалагічнага цэнтра, ці яшчэ што іншае, - дык канчатковым прыпынкам-"стопам" усіх творчых шуканняў юных тэатралаў-эколагаў з "Экастопа", безумоўна, была і застаецца светлая ідэя тварэння дабра і прыгажосці, бескарыслівай любові да прыроды і чалавека.

**Мікола ЧЭМЕР.**

НА ЗДЫМКУ: выступае тэатр "Экастоп".

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Каб не дыхаць забруджаным паветрам - прасцей яго не забруджваць

*Міжнародны Зялёны Крыж заснаваны Міхаілам Гарбачовым у 1993 годзе. Гэта няўрадавая арганізацыя, мэта якой - гарманізаваць стасункі паміж людзьмі і навакольным асяроддзем для дасягнення ўстойлівасці развіцця грамадства. Работа вядзецца ў рамках пяці праграм, агульная задача якіх — у змяненні каштоўнасцей людзей: папярэджанне воднага канфлікту і барацьба супраць апустыньвання, эфектыўнае выкарыстанне рэсурсаў і энергіі, экалагічныя наступствы войнаў, экалагічная адукацыя. Ініцыятарамі праграм выступаюць Міжнародны Зялёны Крыж у Жэневе і нацыянальныя арганізацыі. У сваёй дзейнасці яны кіруюцца наступнымі прынцыпамі: 1) фундаментальная трансфармацыя каштоўнасцей - вузкія падыходы ў вырашэнні праблем ігнаруюць сувязі паміж мясцовым, нацыянальным і глабальнымі ўзроўнямі; 2) дыялог - урад, прыватны сектар, рэлігійныя групы, міжнародныя арганізацыі, няўрадавыя арганізацыі і асобныя грамадзяне становяцца партнёрамі; 3) аб'яднанне экалагічнага і сацыяльна-эканамічнага прынцыпаў.*

*З 1995 года Міжнародны Зялёны Крыж супрацоўнічае з Беларуссю. На Беларусі ў гэты час ствараецца навукова-тэхнічнае таварыства "Фонд новых тэхналогій" на аснове грамадскай ініцыятывы "Урачы - дзецям" (1989). У 1999 годзе яно ператвараецца ў грамадскую арганізацыю Беларускі Зялёны Крыж.*

Прычыны ўсіх экалагічных праблем Беларусі, лічаць супрацоўнікі Беларускага Зялёнага Крыжа, караняцца ў нежаданні людзей зразумець элементарную рэч: каб не дыхаць забруджаным паветрам, прасцей яго не забруджваць. Лягчэй папярэдзіць захворванне, чым потым яго лячыць. Дзейнасць арганізацыі накіравана на разбурэнне стэрэатыпаў.

На Беларусі не існуе масавага экалагічнага руху. Асобныя арганізацыі час ад часу атрымліваюць гранты на пэўныя праекты. Іх рэалізацыя носіць лакальны характар. Не так як на Захадзе: дзяржава аб'яўляе кампанію, да якой па іерархіі падключаюцца міністэрствы, нацыянальныя ўрадавыя і няўрадавыя арганізацыі. У нас наадварот, апошнія часам катэгарычна адмаўляюцца супрацоўнічаць з урадам. І тым меншая эфектыўнасць задуманых акцый. Спецыялісты лічаць, што масавы экалагічны рух проста немагчымы. І сярод шэрагу прычын называецца слабая прававая база рэспублікі. Дык як быць з экалогіяй? Бясконца змагацца са смеццем на вуліцах, з забруджваннем рэк? Гэта традыцыйны падыход. Пра яго ведаюць нават дзеці. У школах у адказ на заданне намаляваць плакат да даты трагедыі на Чарнобыльскай АЭС з'яўляюцца коміны з дымам, які засланяе сонца, чорныя сажалкі. Побач заводы і над імі чыстае неба, значыць, фільтр паставілі...

Арганізацыя працуе не на вынік, а на прычыну. Трэба змяніць стаўленне людзей да праблемы. Першы з пералічаных прынцыпаў Міжнароднага Зялёнага Крыжа прыводзіцца ў дзеянне.

У Беларусі рэалізуецца медыка-сацыяльная праграма. Медыцынская частка ўключае лабараторнае і клінічнае абследаванне дзяцей у забруджаных радыенуклідамі раёнах, індывідуальную дыягностыку, рэкамендацыі па прафілактыцы і лячэнню. Гэта - Навагрудскі, Жыткавіцкі, Бярозаўскі раёны. Сацыяльная праграма абапіраецца на адукацыю.

У снежні мінулага года прайшоў другі адкрыты экалагічны турнір школьнікаў Беларусі. Многія з тых, хто ўдзельнічаў у ім, упершыню прыехалі ў сталіцу. Сапраўднае выпрабаванне. І няхай узровень работ не дацягваў да міжнародных стандартаў. Не ў гэтым бачылася мэта арганізатарам. Хутчэй за ўсё, ніводзін з прадстаўленых праектаў не знойдзе практычнага выкарыстання. Спаборнічалі дзеля сябе, а не дзеля атрымання ганаровых грамат. Падлеткі задумаліся над вырашэннем экалагічных праблем. У гэтым каштоўнасць. І менавіта гэта павінна называцца экалогіяй.

У Чарнобыльскім рэгіёне з 1998 года дзейнічае праграма "Маці і дзіця" для маладых сем'яў. Людзі не маюць выбару, акрамя як жыць на забруджанай тэрыторыі. Дапамога чакаецца звонку. І зноў стэрэатып: шлях да здароўя бачыцца толькі ў прыёме лекаў. Здароўе і навакольнае асяроддзе ўзаемазвязаны. Людзі занепакоены сваім станам, але пра тое, як зменшыць уплыў навакольнага асяроддзя, яны не задумваюцца. Дакладней, ідуць па шляху найменшага супраціўлення. Тыя, у каго ёсць магчымасць, адпраўляюць дзяцей на адпачынак за мяжу. Аднак часовае пражыванне ў чыстых раёнах і харчаванне чыстымі прадуктамі толькі на 10-15 працэнтаў змяншае гадавую радыяцыйную нагрузку на дзіцячы арганізм. Пасля вяртання дадому літаральна праз дзесяць дзён эфект аздараўлення знікае. Бацькоў спрабуюць пераканаць, што ў такіх умовах толькі яны самі могуць захаваць здароўе сваім дзецям. Ствараюцца клубы падтрымкі актыўных маці з тым, каб ужо яны самі сталіся крыніцамі інфармацыі.

Беларускі Зялёны Крыж выпусціў памятку "Як выгадаваць здаровае дзіця". У прадмове ўказваецца асноўная мэта: "Не падараваць вам гатовую рыбу, а даць вам вудачку, якой можна налавіць яе самім". Памятка дае агульную інфармацыю пра маштабы і наступствы катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, тлумачыць, што такое радыеактыўнасць. Вызначаюцца бар'еры абароны здароўя чалавека ад радыяцыі, і сярод іх - "прыняцце новага ладу жыцця ў Чарнобыльскіх рэгіёнах, асвета настаўнікаў, школьнікаў, укараненне ў сям'і экалагічных ведаў". Той самы бар'ер, які можа быць пастаўлены любым чалавекам, адзначым, пры яго жаданні. Памятка дае такую магчымасць. Яна не адарвана ад рэальнага жыцця. Тут сабраны практычныя парады, якія датычаць як непасрэдна праблемы радыяцыі (змяншэнне ўтрымання радыенуклідаў у гароднінных і пладова-ягадных культурах, якія вырошчваюцца на прысядзібных участках, і ў прадуктах харчавання), так і ўвогуле праблем выхавання дзіцяці. "Як знізіць узровень трывогі і стрэсу", "Як вызначыць і развіць здольнасці дзяцей", "Як лячыць кашаль у хатніх умовах", "Як павысіць імунітэт дзіцяці", "Парады лагапеда"...

"Трэба любіць зямлю... Вось ты: вучышся ва універсітэце, займаешся замежнымі мовамі. Закончыш - і паедзеш. Калі Беларусь пакінеце вы, маладыя, дык каму яна ўвогуле будзе патрэбная?" - заклікае арганізацыя. Адзін з напрамкаў медыка-сацыяльнай праграмы Зялёнага Крыжа - прыцягненне ўвагі моладзі да праблем экалогіі. Ствараюцца мясцовыя маладзёжныя групы лідэраў - падлеткі і студэнты, якія бяруць на сябе ролю ініцыятараў шматлікіх мерапрыемстваў у час турыстычных злётаў, у адукацыйна-аздараўленчых летніках. У 1999 годзе школа для 35 лідэраў была арганізавана ў пасёлку Стайкі. Каб трапіць у лік лідэраў, неабходна даказаць сваё жаданне, праявіць арганізатарскія здольнасці. "Калі чалавек можа раскласці агонь, зварыць кацёл супу - у яго ёсць шанц". Каб любіць прыроду - трэба ўсталяваць з ёй адносіны. І гэта экалогія.

Клубы гісторыі і культуры Беларусі, дэбатаў, інтэлектуальных гульняў для школьнікаў Гомельскай вобласці - аснова экалогіі. Вучоныя спрачаюцца: тэрмін "экалогія" мае дакладнае азначэнне і абапіраецца на эканамічныя паняцці. Найноўшыя метафары, накшталт "экалогія душы", "экалогія свядомасці" - не больш, чым проста метафары, выдуманыя спецыялістамі. Напэўна, гэта самы вузкі падыход, які ўзялася разбурыць арганізацыя Беларускі Зялёны Крыж.

**Таццяна КУПРЫЯНЧЫК, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**

# Наш кут сатыры і гумару

Уладзімір НОВІК

## Стылізацыя ў мажоры

### Аптымістычная псеўдароспач

*І стухне дзень, бы памінальны звон,*
*Ні грошай, ні кахання і ні хаты.*
*Зламаны стол, пабіты тэлефон,*
*І ложак у пакоі інтэрната,*
*...І пхнуцца ад сцяжка і да сцяжка,*
*І чуць, як сэрца у грудзях нямее...*
**Аляксей Белы.** Аблога

Як воўка аблажылі кругаля сцяжкамі...
Знялі з трамвая - не было білета.
Я жалюся каханай: ў сэрцы камень.
Паслухала - і выгнала кабета.
Я стухнуў. Пхнуся.
Памінальны звон.
У інтэрнаце камендант ў пакоі.
- Зламаны стол, пабіты тэлефон.
Бы ў свінуху...
Ну што гэта такое?

Паслухай дзядзьку: як мага на вёску
Кіруй, Мікола, заўтра - й без адкладу.
На сенажаці пагуляеш з коскай -
На ростань, хлопча,
дам табе параду:

Здабудзеш хлеб, вядома, і да хлеба.
Ў твае гады - касіць адно касіць.
Цяпер там рай.
Буслы кружляюць ў небе,
Да рук сінічка стрымгалоў ляціць...

### На кірмашы посуду

*У гасцях убачыў вазу -*
*Звон на сто рублёў.*
**Мікола Маляўка.**

На кірмаш, дзе посуд з гліны
У хаду патрапіў раз.
Слых, душу і зрок арліны
Так адвёў.
Пра гэта сказ.

Цуд-гаршчок стаіць вялізны -
Я ў яго таўхець:
На рублёўку ён прыблізна
Распачаў звінець

Зграбны збан і паліваны,
Як тут не купляць?
Грукнуў у бок яго гліняны -
Звон на паўрубля
Бразнуў ціхенька у міску -
Толькі чуць чуваць.
Загула мне міска нізка
На рублёў мо пяць.

Далікатна вазу ў рукі
Узяў.
Неўпрыкметку стук -
І, паверыце, а ні гуку...
Бачна - рэч бы з рук.

Спахмурнелы кажа ціха
Жонцы так ганчар:
- Пакупнік з выключным слыхам:
Уцаніў тавар...

### Хадзем на дзялку

*Рачулка,*
*Рэчачка-бруя*
*Над ёю строма-круча.*
*На кручы - вогнішча і я...*
*...Дрыжыць язычніцкі агонь...*
**Яўген ХВАЛЕЙ.**

Гляджу ў язычніцкі агонь,
Палю, канечне, цыгарэту.
- Паэт, чаго сядзіш, чаго? -
Пытаюцца кабеты.

Надумаў, бач, каля ракі
Набрацца гэтага... натхнення.
Хадзем на дзялку. Буракі
Палоць паможаш, Жэня!

### Палічы вароны

*Хтосьці лічыць золата, манеты,*
*а хтосьці - зоры.*
**Ала КАНАПЕЛЬКА.**

Адшукала цуд, а не работу -
У завею, прыцемкі і слоту
Узялася зоры палічыць.

Прынясла статыстыкам рахункі:
- Калі ласка, мілыя мужчынкі,
Вывярайце. І, прашу, не кпіць.

Ды адзін у вочы рэжа гэтак:
- Ты паслухай, мілая кабета,
За работу годную вазьміся.
І заўважыў ментарскім ён тонам:
- Не хапала ў Мінску шчэ вароны
Палічыць...
А, словам, схамяніся.

Васіль НАЙДЗІН

## Аўтарытэтны гумар

Аўтар Перчык, не дужа малады, але яшчэ і не стары гумарыст, а можа, і будучы сатырык, не здаваўся.

Рэдактар таксама стаяў на сваім.

Размова працягвалася.

- ...Не ведаю, што і рабіць з вамі. Дайце сюды рукапіс... Калі б яшчэ не гумар, можа б, гадоў праз дзесяць і выйшла б кніжка.

- Дык у мяне ж смешна напісана! Вось тут... і тут. Рагатаць хочацца. Таму і прыйшоў я ў выдавецтва.

- Гэта вам здаецца, што смешна. А пачнеш чытаць, на сон цягне. Учора над рукапісам аднаго гумарыста тры разы хроп...

- Над маім спаць не будзеце. Суседу чытаў, дык той ледзь не памёр са смеху.

- Тым больш нельга выдаваць вашу кніжку. Хто-небудзь зойдзецца і - будзь здароў! - лыжы ўбок... А нам адказвай. Я ж вам даўно раіў: бярыцеся за сур'ёзныя рэчы. Апавяданне напішыце. Дзіцячае, напрыклад. Можа, тады і прапіхнем.

- На гумар цягне...

- Нешта вас туды ўсіх пацягнула. Бачыце, колькі рукапісаў у шафе. І ў гэтым стагоддзі наўрад ці ўправімся. Тармазіць гумарыстам ужо трэба! Дарэчы, ваш рукапіс пакладзем сюды. Пад шыльду "2020 год".

- Можа б, спачатку пачыталі?

- Дажыву - прачытаю. А цяпер, таварыш аўтар Перчык, няма часу... Ды адпусціце мае рукі!

- А далёка не трэба класці... Смешна ж напісана! Сусед вунь ледзь не памёр. Жонка, цешча і дзеці ад смеху лопаліся...

- Адыдзіце, кажу, ад мяне! Не перашкаджайце працаваць.

- Гадкоў бы на дзесяць бліжэй паклалі. Вельмі вас прашу...

- На два гады, лічыце, угаварылі. Кладу сюды... Памятайце маю дабрату.

- Буду памятаць.

- Бо вунь колькі ў нас гумару! І сатыра ёсць. І ўсё астатняе. Акрамя смеху і паперы. Ведаеце, якая на паперу цяпер галадуха.

- Колькі тон паперы вам трэба? Я дастану.

- Ды не ў гэтым, таварыш Перчык, справа. Што ж гэта, мяркуйце, атрымаецца, калі кожны аўтар разам з рукапісам паперу нам прывозіць будзе. І наогул, мы працуем з перспектывай і на перспектыву. Чакайце свайго 2020 года.

- Далекавата. А я не дужа малады...

- Вы ведаеце, у якім узросце Сервантэс Сааведра напісаў і выдаў свой раман...

- ..."Хітрамудры Ідальга Дон Кіхот Ламанчскі"? Я такога не напішу. І наўрад ці дажыву.

- Больш аптымізму, Перчык! Захочаце ўбачыць сваю кніжку, дацягнеце. А цяпер нічым дапамагчы вам не магу. Ад рукапісаў, самі бачыце, паліцы ломяцца. А галоўнае - у гэтых шафах аўтарытэт ляжыць на аўтарытэце. Адзін на аднаго цісне... Да 2020 года іх якраз і хопіць, гэтых аўтарытэтаў. Яшчэ, можа, і застанецца...

- Я не супраць класікаў. Няхай выдаюцца. Усе яны, і я - Перчык!

- Прозвішча ў вас сапраўды дай Бог кожнаму. Пер-чык!.. Але зялёны яшчэ. Спейце да тэрміну, які мы вызначылі. А там, уявіце, першая кніжка, ганарар. Віншаванні, запрашэнне нас у рэстаран...

- Стары ўжо буду.

- Нічога, грошы і старым трэба... Ды што гэта я тут з вамі валэндаюся. Такім, як вы, Перчыкам, мы ўмомант тлумачым, што да чаго і навошта.

- Растлумачце, калі ласка. У мяне таксама ёсць гонар.

- Тады адкрываем ваш рукапіс. На любой старонцы... Вось тут, напрыклад. Чытаем: "Пятрок пагнаўся за Арынай. Ён дагнаў яе на мастку, прыцягнуў моцна да сябе і горача пацалаваў..." Аўтарытэтна цяпер вас пытаю, таварыш Перчык, - ну, хто так піша? Скажыце?

- Я!

- Ведаю, што вы. Але ў вашым творы няма ні тэмы, ні думкі, ні павароту...

- А ён жа яе, калі дагнаў на мастку, прыгарнуў да сябе?! Бег за ёй, бег, а тады - цап ззаду... Значыць, быў паварот. І на лужку павярнуў.

- Хто тут рэдактар?!

- Вы.

- А вы хто такі?

- Перчык. Зялёны...

- Вось іменна. А таму ваш рукапіс кладзем сюды. У самы ніз шафы... Адпусціце мае рукі, не перашкаджайце працаваць!.. Вось так. Яшчэ да мяне пытанні будуць?

- Вы самі калі-небудзь смяецеся?

- У адзіным выпадку: калі гляджу на гэтыя шафы, напоўненыя тонамі гумару. На два дзесяткі гадоў хопіць выдавецтву работы. А там мне якраз на пенсію.

- Дык што мне рабіць, парайце...

- Калі казаць праўду, рулюйце ў якое-небудзь прыватнае, недзяржаўнае выдавецтва. За месяц вашу кніжку спякуць. Што хочаце аддрукуюць.

- За даляры?!. А ў мяне іх няма. Ды і гумар там будзе не аўтарытэтны. У іх на першым плане грошыкі. Якое там рэдагаванне , якая павага да слова!..

- Вось іменна, таварыш Перчык. З усяго гэтага не рагатаць, а плакаць хочацца. А вы - "памёр ад смеху", "смешна напісана"...

І разззлаваны ушчэнт рэдактар пераклаў рукапіс аўтара Перчыка ў другую шафу, пад шыльдай "2030 год".



## Вясёлы аловак Алега Папова



## Густ у мяне выключны...

(Гумарэска)

Арына Раманаўна, загадчыца аддзела, жанчына перадпенсійнага ўзросту, гледзячы на маладзенькіх падначаленых, дала зразумець Анжэліцы, асабліва падкай на моду з усяе канторскай маладзёжнай тусоўкі, што хоча займець як сучасную адмысловую прычоску, так і некалькі (ну, няхай не ад Версачы) шыкоўных гарнітураў, наважылася быць упоравень з моладдзю, даказаць, што густу ў яе не бракуе...

Анжэліка праз знаёмых і паўзнаёмых выйшла на майстрыцу, якая згадзілася зрабіць цуд на галаве Арыны Раманаўны, які ўразіць каляжанак.

Недзе пасярод тыдня Анжэліка паведаміла:

- Сёння, пад вечар, нас чакае майстрыца.

У сектары прыватных домаўладальнікаў адшукалі патрэбную хаціну. Майстрыца адразу павяла кліентку ў кабінет.

Арына Раманаўна не паспела агледзецца, як была ўсаджана ў крэсла. Майстрыца кінула перад ёю зашмальцаваны стос часопісаў-каталогаў і прамовіла:

- Даражэнькая, выбірайце. Зраблю прычоску - сябе не пазнаеце.

Арына Раманаўна не паспела тыцнуць пальцам у абраную мадэль, як ля яе вуха залескаталі нажніцы. Майстрыца шчыравала доўга. Нарэшце сказала, што кліент гатовы.

Назаўтра, хаця надвор'е было, як кажуць, не лётным (снег з дажджом ), Арына Раманаўна пад парасонам кіравала на працу.

Да пачатку працоўнага дня заставалася колькі хвілін. Арына Раманаўна наўмысна выйшла ў калідор, а пасля на лесвічную пляцоўку, дзе збіраюцца курыльшчыкі і курыльшчыцы: нібыта і ёй захацелася папаліць...

На яе прычоску - нуль увагі.

"Так старалася, - прамільгнула ў галаве, - каб уразіць, даказаць, што не лыкам шытая. Няўжо ніхто не падасць рэплікі-пахвалы?"

А яна ж чакала пахвалы.

І дачакалася.

Камп'ютэршчык Эдзік, хлопец здатны на язык і нечаканы ў высновах, выдаў:

- О, Арына Раманаўна, ды вы так амаладзіліся. Вам ідзе бокс. Ці не дзядзька Вася вас пастрыг?

Арына Раманаўна зрабіла выгляд, што не чула слоў хлопца, моўчкі накіравалася ў свой кабінет.

"Не, - падумала пра сябе, - усё ж дакажу гарнітурчыкам (яго заўтра прынясе сяброўка-модніца Анжэлікі), што густ у мяне выключны. Лопнеце ад зайздрасці".

І даказала.

Праз два дні Арына Раманаўна паварочвалася перад курыльшчыкамі і курыльшчыцамі: глядзіце, які ў мяне адмысловы гарнітур.

Ды зноў камп'ютэршчык Эдзік наіўна, бясстрасна, пры народзе, запытаў:

- І ў якім магазіне ўцэненых рэчаў вы адхапілі абноўку?

**Адам ЛУСТА.**

## Казёл і сабака Моська

(Гумарэска)

У Маськова ёсць сусед па прозвішчу Казлянок. Ну, такі ўжо невыносны чалавек! Ну, акурат як і сам Маськоў - па меркаванню Казлянка. "Ды які ён Казлянок, - разважаў Маськоў. - Калі б хоць малады быў... А то стары чорт. Казёл, дый годзе!"

Каб лішні раз назаліць суседу, Маськоў купіў у суседняй вёсцы рагатага чорта, як там называлі яго, - казла. Яму здавалася, што казёл нечым падобны да суседа, і штодзень прывязваў рагата-барадатага страшыдлу на сваім агародзе якраз насупраць суседавых вокнаў. А Казлянок назваў свайго сабаку ніяк інакш, як Моська. Выйдзе на ганак і кліча, на ўсю вуліцу чуваць: "Моська, на!.. На, на, каб ты выпруціўся, сабака".

Дзе там даклічашся! Казёл з Моськам падружыліся, што вадой не разальеш. Разляжацца рагаты ў бур'яне пад плотам, сабака зашыецца яму ў поўсць - цёпла і ўтульна, спакойна ім абодвум. Ну, такая ідылія!..

Казлянок ніяк не мог змірыцца з гэтым. Ён хацеў, каб Моська ўдзень і ўначы брахаў на суседа, не даваў спакою яму і яго казлу. Прывязваў, зачыняў яго, але ўсякі раз сабака ўхітраўся збегчы. Неяк на падпітку Казлянок пачаў вучыць яго. Укленчыў побач на карачкі і гаўкае ў бок хаты Маськова: "Гаў, гаў, Моська... Ну, брашы, гаў, гаў-гаў!.." Так захапіўся, што аж падвываў, зямлю нагамі гроб...

Казёл тым часам падышоў з тылу ды і тыцнуў рагамі пад зад дрэсіроўшчыку. Той так і зарыўся носам у зямлю. "Ах, ты гад рагаты, - ускіпеў Казлянок. - Дык ты яшчэ бадацца? Ну, я табе зараз пакажу". Ён усхапіўся, пабег у хату і выскачыў са стрэльбай у руках.

Прыцэліўся... І раптам убачыў на мушцы прыцэлу Моську, які адважна стаяў наперадзе сябра. Казлянок апусціў стрэльбу...

**Васіль ФЕРАНЦ.**

Цікаўным

## Гэты загадкавы свет геніяў і талентаў

### Трапны адказ

Нехта ў байкапісца І.А.Крылова запытаў, чаму ён, валодаючы выключным талентам, так мала піша.

- Я аддаю перавагу таму, - адказаў Іван Андрэевіч, - каб мяне лепш папракалі за тое, што я мала пішу, чым дапісацца да таго, каб людзі запыталіся, навошта я пішу.

### Нічога не зробіш

Аднойчы Вальтэр браў удзел у спрэчцы наконт музычных спектакляў. Гутарка зайшла аб нядобраякасных тэкстах, на якія пішуцца оперы.

Выслухаўшы нараканні сяброў, Вальтэр, уздыхнуўшы, сказаў:

- Нічога не зробіш! Здаўна ўжо так павялося: калі словы настолькі неразумныя, што іх сорамна гаварыць, дык іх спяваюць.

### Для самых блізкіх сяброў

Неяк адна з гарачых прыхільніц французскага пісьменніка Жуля Рэнара, жадаючы, відаць, дагадзіць яму, сказала, што ў яго няма ніякіх недахопаў.

- Вы памыляецеся, мадам, - адказаў Рэнар. - Недахопы ў мяне ёсць, але я іх захоўваю для самых блізкіх сяброў...

### Пісаць толькі добрыя вершы

Аднойчы малады паэт прачытаў Вальтэру свае творы.

- Малады чалавек, - сказаў філосаф, - такія вершы вы зможаце пісаць тады, калі будзеце славутым. А пакуль што вам трэба пісаць толькі добрыя вершы.

### Помста Гейнэ

Гейнэ, калі стаў вельмі папулярным, атрымаў неяк ад аднаго са сваіх шматлікіх прыхільнікаў даволі важкае даплатнае пісьмо. Сярод цэлага стосу чыстай паперы быў знойдзены маленькі лісток, на якім было напісана: "Адчуваю сябе добра. Твой..."

У хуткім часе ў адрас дабрадзейнага прыхільніка прыбыла цяжкая скрыня, за перасылку і транспарціроўку якой давялося заплаціць даволі значную суму грошай.

Шчаслівы прыхільнік ускрыў, нарэшце, пасылку.

У скрыні ляжаў велізарны камень, а пад ім кароткая запіска:

"Пры атрыманні весткі аб тваім добрым самаадчуванні гэты камень зваліўся з майго сэрца. Твой Гейнэ".

### Паспрабуй жаніцца...

Пісьменнік Салагуб, аўтар папулярнага ў мінулым стагоддзі рамана "Тарантас", шпацыраваў са сваёй пляменніцай, дзяўчынай рэдкай прыгажосці. Сустрэўшы яго, знаёмы чалавек невялікага розуму ўсклікнуў:

- Скажы, калі ласка, як гэта магло здарыцца? Ты ніколі прыгожым не быў, а дачка - пісаная прыгажуня.

- Гэта здараецца, - спакойна адказаў Салагуб. - Паспрабуй ты жаніцца! Магчыма, у цябе будуць разумныя дзеці...

### Сакрат і яго вучань

Калі Сакрат сядзеў у цямніцы, яго наведаў малады вучань Крыціяс. Убачыўшы асуджанага на пакаранне філосафа, ён заплакаў.

- Чаго ж ты плачаш? - запытаўся Сакрат.

- Таму, што ты асуджаны без усялякай віны.

- Няўжо ты хочаш, каб я быў вінаваты? - адказаў з усмешкай мудрэц.

### Што зробіш!

Пасля доўгага расстання прыяцель сустрэўся з Байранам.

- Ой, што з табой, чаму ты так схуднеў? - трагічна ўскрыкнуў ён, паціскаючы руку паэту.

- Што ж зробіш! - уздыхнуў Байран. - Я страціў 25 фунтаў, пазычыўшы іх чалавеку, у якога ніколі назад іх не атрымаю.

### Старыя знаёмыя

Малады і не вельмі сціплы аўтар з пафасам чытаў сваю камедыю. Марк Твэн слухаў уважліва і кожны раз, калі малады драматург даходзіў да якога-небудзь месца, якое здавалася аўтару асабліва трапным і смешным, Марк Твэн моўчкі знімаў капялюш і ветліва кланяўся.

Калі яго запыталіся аб прычыне гэтага, ён адказаў:

- Я заўсёды вітаюся са старымі знаёмымі.

### Барон без фантазіі

У кампазітара Сярова запыталіся, як яму спадабалася опера барона Фіцінгофа-Шэля "Тамара", якую ён толькі што праслухаў.

- Дарэмна кажуць, што ў кожнага барона свая фантазія, - адказаў вядомы кампазітар. - У барона Фіцінгофа-Шэля на фантазію і намёку няма...

### Коратка і ясна

Надакучлівы рэпарцёр запытаўся ў Шаляпіна:

- А ўсё-такі скажыце, Фёдар Іванавіч, якія партыі вы больш любіце спяваць?

- У добрых операх - вялікія, а ў дрэнных - маленькія.

### Вучоны і прыдворны франт

На камзоле маладога вучонага Ламаносава прадраліся локці. Сустрэўшы яго, прыдворны франт з'едліва заўважыў:

- Вучонасць выглядае адтуль...

- Глупства заглядае туды, - адпарыраваў Ламаносаў.

### Першы ганарар

У Марка Твэна неяк запыталіся, калі ён атрымаў першы свой ганарар.

- Гэта было яшчэ ў дні майго дзяцінства, - адказаў пісьменнік. - У школе, дзе я вучыўся, нас даволі часта лупцавалі. Але ад лупцоўкі можна было адкупіцца, ахвяраваўшы пяць долараў на дабрачынныя мэты. Калі мяне павінны былі аднойчы адлупцаваць, я ва ўсім прызнаўся бацьку, і ён даў мне грошы. Пяць долараў, я, вядома, пакінуў сабе, а мяне... адлупцавалі. Гэта і быў мой першы ганарар.

### З паўрублём не сунешся

Аднойчы вядомы акцёр Сіла Мікалаевіч Сандунаў сустрэў свайго знаёмага сенацкага обер-сакратара.

- Што гэта я вас даўно не бачыў? - запытаўся ён у чыноўніка.

- Нічога дзіўнага тут няма, - з пыхай адказаў обер-сакратар. - Я ж чалавек заняты. Вось вы - справа другая. Вас усялякі можа бачыць за паўрубля.

- Гэта праўда, - з усмешкай заўважыў Сандунаў. - Да вашага высакароддзя з паўрублём не сунешся!..

### Рэпліка са сцэны

Калі вядомы акцёр, выконваючы галоўную ролю ў пастаноўцы "Рычарда III", крыкнуў са сцэны: "Каня, каня! Паўцарства за каня!" - якісьці жартаўнік грымнуў з галёркі басам:

- А асёл вам не падыдзе?

- Падыдзе! - прагучаў адказ. - Хутчэй ідзіце сюды!..

### Жыццё і сцэна

Аднойчы тэатральны антрэпрэнёр папракнуў вядомага артыста Самарына:

- Учора ў ролі Атэлы вы паміралі неяк зусім ненатуральна...

- Я і сам здзіўляюся гэтаму, - адказаў Самарын. - Здавалася б, пры такой зарплаце, якую я ў вас атрымліваю, няцяжка было б памерці і натуральнай смерцю.

**Падрыхтаваў Кастусь КАРНЯЛЮК.**

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.
Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.
Адказны дзяжурны Іна НІКІЦЕНКА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 1327
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 10.6.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.